


# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

20 красавіка 2018 года №16 (1199)



Хочаце самі лавіць рыбу, як з магазіна? Вам у рыбгас "Грыцава" старонка 5

Змяненні ў раскладзе руху цягнікоў старонка 8

На якіх пляжах Вілейшчыны можна адпачыць сёлета старонка 18


# Неабыякавыя людзі за свае грошы хочуць адкрыць у Латыгалі дом для састарэлых

Пётр Лісоўскі расказвае, што ў двары дома для састарэлых трэба зрабіць яшчэ многа: прыбраць тэрыторыю, пакласці дарожкі. старонка 2

Фота Наталлі ТУР.




ISSN 1991–7155



ТЭМА НУМАРА

# Старога чалавека можна вылечыць, проста пагутарыўшы з ім

ВІЛЕЙКА

**А бывае, што нават словы лішнія. Дастаткова выслухаць. Асабліва, калі гаворка ідзе пра адзінокіх людзей, якія па волі лёсу напрыканцы жыцця апынуліся ў доме для састарэлых.**

У Латыгалі ў такога дома для састарэлых няма пакуль нават афіцыйнага статуса. Затое ёсць людзі, якія аддаюць свой час, свае грошы, сваё цяпло некалькім пастаяльцам, якія сёння знаходзяцца ў былой латыгальскай школе, а цяпер доме для састарэлых.

Паказаў дом і расказаў пра цяжкасці, з якімі давялося сутыкнуцца яго заснавальнікам, пастар прыходу хрысціян веры евангельскай з вёскі Трыгузі, валанцёр і памочнік па гаспадарцы **Пётр Лісоўскі**.

– Мая знаёмая, цяпер дырэктар гэтай установы **Марыя Васільеўна**, даўно шукала памяшканне, каб адкрыць у ім прыватную сацыяльна-рэабілітацыйную ўстанову. У Вілейскім сельсавеце прапанавалі на выбар тры памяшканні – у Ілы, Бубнах ці Латыгалі. Мы разам паглядзелі і вырашылі, што будынак былой школы па ўсіх параметрах для такога дома падыходзіць. Пачалі рамонт.

Яго пачалі яшчэ летась у жніўні.

**За гэты час расчысцілі тэрыторыю, парамантавалі комін, у памяшканні зрабілі касметычны рамонт: паклеілі шпалеры, паклалі лінолеум, па патрабаванні санстанцы зрабілі памяшканні для бялізны і два ізалятары, купілі вогнетушыцелі, – адным словам, зрабілі ўсё, каб хоць сёння можна было засяляцца і жыць.**

Але тут гаспадароў чакалі новыя цяжкасці.

– Не можам адкрыцца. Не дазваляюць то пажарныя, то іншыя службы.

З'явіліся пытанні з аплатай арэнды.

– Спачатку заключалі дамову без аплаты арэнды, а цяпер аказалася, што так рабіць нельга. Трэба плаціць 500 рублёў у месяц. Але гаворка не пра тое. Заплацім. Ёсць шмат людзей, якія хочуць дапамагаць. А гаворка пра тое, чаму, калі ты хочаш зрабіць добрую справу, трэба прабіць такія сцены? Гэта ж справа добрая і вельмі патрэбная людзям.

Пётр Лісоўскі расказвае, што часта ездзіць па навакольных вёсках, сустракаецца з людзьмі.

– Я прывожу ім садавіну. Гутару з імі. Людзі розныя: нямоглыя, хворыя, інваліды, адзінокія. Такога чалавека толькі выслухаеш, а ўжо яго вылечыш на час.

## Пастаяльцы дома для састарэлых: хворыя і кінутыя дзецьмі

Сёння ў латыгальскім доме для састарэлых жывуць трое чалавек.

– Пазаўчора было яшчэ чацвёра. Адна жанчына памерла.

Заходзім у адзін з пакояў. Ён вялікі – 50 квадратных метраў, у ім пяць ложкаў. Заняты толькі адзін. Ля акна. На ложку сядзіць старая сівая жанчына, глядзіць у акно.

– Якаўлеўна, прывітанне, – махае рукой ёй Пётр Лісоўскі. Жанчына моўчкі ківае галавой.

– Адна яна тут, а дазволілі б адкрыцца, засялілі б яшчэ пару жанчын. Яны б гутарылі паміж сабой. Да нас хочуць прыязджаць валанцёры. Узялі б інваліды вазок, вывезлі на вуліцу, пагулялі, старыя падыхалі б свежым паветрам. Я не разумею, чаму гэта цяжка? Я знайшоў бы магчымасць добраўпарадкаваць двор, пакласці дарожкі, каб па іх можна было праехаць з вазком.

Якаўлеўну, як яе называе Пётр Іванавіч, у дом для састарэлых здалі дзеці. Не свае, не родныя.

– Яна жыла тут, у вёсцы. Доўга не выходзіла замуж. А ў мужчыны, што жыў па суседстве, памерла жонка. Засталося чацвёра маленькіх дзяцей. Мужчына і кажа: "Дапамажы мне дзяцей на ногі падняць. Выходзь за мяне замуж". Якаўлеўна доўга вагалася. Раілася з бацькамі. Маці яе адгаворвала. А бацька сказаў, што калі яна пагодзіцца на гэта, то зробіць вельмі добрую справу. Пайшла замуж, выгадавала чатырох чужых дзяцей. А як стала старой, дзеці яе аддалі ў дом для састарэлых. Я з ёй шмат размаўляю.

Яшчэ два чалавекі – гэта хворыя мужчыны.

– Сваякі аддалі нам, бо няма каму даглядаць ляжачых.

У доме для састарэлых цяпер працуюць дзве сядзелкі. Зімой працавалі качагары. Дырэктар дома для састарэлых працуе і за начную сядзелку, і за повара.

– Мы не скардзімся, толькі хочам, каб нам далі дазвол на адкрыццё. Старым людзям вельмі патрэбны такі дом.

## Сельвыканкам зробіць усё, што залежыць ад яго

Старшыня Вязынскага сельвыканкама **Ігар Судніковіч** кажа, што з іх боку на дом для састарэлых няма ніякіх нараканняў.

– Адзінае, што ён можа вялікі для аднаго Вязынскага сельсавета. Я гутарыў з яго дырэктаркай. Тая кажа, што могуць на першым паверсе размясціць да 30 чалавек. У Вязыні, калі вы ведаеце, працуе дом сезоннага знаходжання састарэлых. Зімой у ім жылі чатыры бабулі. Канешне, латыгальскі дом для састарэлых адрозніваецца ад вязынскага. Бо, наколькі мне вядома, прымаць у яго плануюць і зусім нямоглых. Тых, каму патрэбны кругласутачны догляд. Мы з боку сельсавета зробім усё, што залежыць ад нас. Справа добрая.

**Наталля ТУР.**



Пётр Лісоўскі часта прыязджае ў дом для састарэлых, каб проста пагутарыць з яго жыхарамі.



У гасцінай можна не толькі адпачыць, але і паглядзець навіны па новенькім тэлевізары.



У жылых пакоях стаяць па пяць ложкаў.



Сталовая можа прыняць да 30 чалавек, а ў доме для састарэлых сёння жывуць трое.

72,8% 67,9% 98,4% 86,2% 2017 16,3% 99,8% 95,5% 3%

Інфаграфіка Аляксандры ПАРАХНІ

# Якую тэхніку мае звычайная беларуская сям’я?

**Халадзільнік, пральная машына і тэлевізар – паводле дадзеных Белстата па 2017 годзе, такі набор бытавой тэхнікі мае амаль кожная беларуская сям’я.**

Колькасць бытавых прыбораў павялічваецца з году ў год.

У 2000 годзе толькі 73,5% хатніх гаспадарак мелі тэлевізар, а пральную машыну – 69,6%.

**Статыстыка паказвае таксама хуткія тэмпы камп’ютарызацыі.**

Калі ў 2000 годзе толькі 1,6% сем’яў мелі персанальны камп’ютар, то летась гэты працэнт дасягнуў 67,9.

## Якая тэхніка ідзе ў нябыт

Адзіная рэч з бытавой тэхнікі, попыт на якую памяншаецца з гадамі, – музычны цэнтр. Яшчэ ў 2009 годзе яго мела амаль чвэрць беларускіх сем’яў (21,6%), цяпер – 16,3%.

Не набралі папулярнасці сярод беларусаў і пасудамыйныя машыны. Іх мае толькі 3% сем’яў.



Аляксандра ПАРАХНЯ
E- mail: alesia.ptushka@gmail.com

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 12.04 | 19.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2,0698 | **2,0256** |
| Еўра | 2,5580 | **2,5041** |
| Злоты, 10 | 5,9480 | **6,0031** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2317 | **3,2925** |
| Грыўня, 100 | 7,7980 | **7,7483** |
| Курсы ў “Банку БелВЭБ” | 11.04 | 18.04 |
| Еўра | 2.4870/2.5800 | **2.4800/2.5150** |
| Долар ЗША | 2.0250/2.0800 | **2.0100/2.0400** |



**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 11.04 | 18.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,98** |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,98 | **6,85** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Карп “Элітны” | 4,50 | **4,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Алей “Залатая семачка”, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,70 | **1,85** |
| Агуркі, 1 кг | 3,70 | **2,95** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,20 | **4,70** |
| Бульба, 1 кг | 0,70 | **0,80** |
| Капуста, 1 кг | 0,68 | **0,70** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,10 | **0,68** |
| Морква, 1 кг | 1,49 | **1,29** |
| Памідоры, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Перац, 1 кг | 4,95 | **5,40** |
| Радыс, 1 кг | 4,99 | **3,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,79 | **0,79** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,00 | **4,60** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 3,40 | **3,50** |
| Вінаград, 1 кг | 5,90 | **5,50** |
| Гранаты, 1 кг | 5,20 | **3,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **2,95** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,20 | **3,20** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **3,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **3,70** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,95 | **4,30** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,89 | **1,89** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Мёд, 0,5 л | 8,00 | **8,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць маладзечанца, які дзесяць год таму паехаў шукаць працу

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі РАУС шукае 33-гадовага **Юрыя Юр'евіча Мікульскага.**



Мужчына нарадзіўся на Брэстчыне. Зарэгістраваны па адрасе: Маладзечанскі раён, вёска Дубрава, вул. Дыбоўскага, 72.

14 жніўня 2008 года ён паехаў у Мінск шукаць працу. Да сённяшняга дня яго месцазнаходжанне невядомае.

## З'ехаў на заробкі ў Расію ў 2004 годзе і знік: міліцыя шукае маладзечанца

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі РАУС шукае без звестак зніклага **Андрэя Міхайлавіча Храмчанкава.**



Мужчына нарадзіўся ў 1973 годзе ў Маладзечне. Зарэгістраваны па адрасе: Маладзечна, Першамайская, 8/9.

У 2004 годзе ён з'ехаў на заробкі ў Расію, у Калінінград, і да гэтага часу месца яго знаходжання невядомае.

На выгляд яму 40-45 гадоў, рост каля 175 сантыметраў, сярэдняга целаскладу, прамы нос, тонкія вусны, дугападобныя нізкія бровы, прамыя русыя валасы. Пра вопратку звестак няма.

## Шукаюць жыхара Маладзечаншчыны, які сышоў з дому ў 2007 годзе

МАЛАДЗЕЧНА

Супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС шукаюць 60-гадовага **Уладзіміра Уладзіміравіча Рабушку.**



Мужчына нарадзіўся і жыў у вёсцы Повязынь на Маладзечаншчыне. У жніўні 2007 года ён выйшаў з дому, і да гэтага часу яго месцазнаходжанне невядомае.

Грамадзян, якім нешта вядома пра месцазнаходжанне зніклых, просяць звярнуцца ў Маладзечанскі РАУС па тэлефонах: **8 (0176) 749683, 770312, 771656** або **102.**

**Юры КАБАКОЎ,**
**намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС.**

# Пад Ракавам са зброяй затрымалі незаконных мігрантаў

ВАЛОЖЫН

**12 красавіка з ужываннем зброі паблізу Ракава спынілі тры машыны. Затрыманыя 16 чалавек – меркаваныя арганізатары незаконнай міграцыі і замежнікі.**




**Каб затрымаць незаконных мігрантаў, група спецпрызначэння выкарыстала зброю.**

Падрабязнасці паведамляе Дзяржпагранкамітэт. Група спецпрызначэння са зброяй спыніла тры машыны. У адной з іх знаходзіўся 33-гадовы грамадзянін Азербайджана, меркаваны арганізатар нелегальнай міграцыі.

Былі затрыманыя таксама двое перавозчыкаў-беларусаў і двое правадыроў-чачэнцаў. З імі знаходзіліся 11 грамадзян В'етнама, якія ехалі транзітам праз Беларусь да мяжы, каб патрапіць у Еўрасаюз. Пры сабе ў іх не аказалася дакументаў.

Супраць падазраванага арганізатара, памагатых і правадыроў узбуджаная крымінальная справа па артыкуле "Арганізацыя незаконнай міграцыі групай асоб па папярэдняй змове".

Санкцыя артыкула – ад 3 да 7 гадоў пазбаўлення волі. Што тычыцца в'етнамцаў, то ў дачыненні да іх распачалі адміністрацыйны працэс за незаконнае перасячэнне мяжы і парушэнне правілаў знаходжання ў краіне.

**Паводле gpk.gov.by.**

## Тры разы за дзве гадзіны выязджалі тушыць запаленую сухую траву

ВІЛЕЙКА

**13 красавіка вілейскія ратавальнікі тры разы за дзве гадзіны выязджалі, каб патушыць запаленую сухую траву.**

13 красавіка пажары здарыліся ў вёсках Савіна, Бязводнае і Кузьмічы.

Пра пажар у Савіне Куранецкага сельсавета паведамілі ў 14:17. На ўчастку, які нікому не належыць, нехта запаліў смецце. Ад смецця пачала гарэць трава.

Літаральна праз 20 хвілін паведамілі, што гарыць трава ў Бязводным Ільянскага сельсавета каля могілак. Людзі прыбіралі магілы да Радаўніцы.

Убачылі сухую траву, вырашылі запаліць. Вецер імгненна разнёс полымя. Людзі зразумелі, што самастойна не патушаць, а агонь мог перакінуцца на могілкі і на лес. Таму выклікалі ратавальнікаў.

Апошняе паведамленне было ў 16:00. Невядомы падпаліў траву ў Кузьмічах Любанскага сельсавета.

– Вёска там нешматлюдная, – распавёў старшы інжынер інспекцыі нагляду і агітацыі **Яўген Камароў**. – Жыхары прыбіраюць і свае, і суседскія ўчасткі.

Па словах вяскоўцаў, яны прыбіралі і палілі смецце пару дзён таму. Але трава загарэлася ўчора. Проста з дому ўбачылі полымя на полі, дзе бывў прывязаны конь. Жывёлу навязалі на іншым месцы, паспрабавалі патушыць самі, а потым патэлефанавалі ў РАНС.

За падпальванне расліннасці ў Адміністрацыйным кодэксе Рэспублікі Беларусь прадугледжаны штраф.

З пачатку сезона ратавальнікі на Вілейшчыне ўжо 14 разоў выязджалі тушыць сухую траву. Адзін раз ад травы загарэўся будынак.

У РАНС распавялі, што цяпер дазваляецца раскладаць вогнішча і паліць смецце. Але гэта трэба рабіць, выконваючы правілы пажарнай бяспекі:

– увесь час кантраляваць запаленае вогнішча;

– спальваць смецце далёка ад будынкаў;

– зрабіць так, каб полымя не распаўсюджвалася на вялікую тэрыторыю. Напрыклад, абкапаць вогнішча.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Гаспадар у вёсцы Рэдзькі наводзіў парадак і спаліў хлеўчык

МАЛАДЗЕЧНА

У вёсцы Рэдзькі Маладзечанскага раёна згарэў дах хлеўчыка.

Прычынай стала парушэнне правілаў пажарнай бяспекі пры спаленні смецця на ўчастку.

– Наводзіў парадак на ўчастку, – расказвае муж гаспадыні пабудовы. – Вызначыў месца, дзе паліць смецце. Паставіў бочку з вадой, сам ад вогнішча не адыходзіў. Але было ветрана. Дым клубамі паварочваў на хлеўчык. Праз нейкі час пачуў, што шыфер трашчыць.

Калі мужчына зайшоў у пабудову, убачыў, што ўвесь дах ахоплены полымем. Здарэння можна было пазбегнуць, калі б гаспадары трымаліся ўсіх правілаў пажарнай бяспекі.

Яны не ўлічылі ўмовы надвор'я, а было ветрана. Адлегласць ад вогнішча да пабудовы складала толькі чатыры метры, а павінна быць не менш за дзесяць.

Калі вы наводзіце парадак на дваровых, прысядзібных участках, памятайце, што трэба так выбраць месца для вогнішча, каб пазбегнуць пажару. Паліце ў бязветранае надвор'е. Ад полымя да пабудоў павінна быць не менш за дзесяць метраў. Майце пад рукой першасныя сродкі тушэння пажараў і пастаянна кантралюйце агонь.

У выпадку пажару неадкладна тэлефануйце на нумары 101 ці 112.

**Марына ГАНЧАРОВА,**
**Маладзечанскі ГРАНС.**

## Не паспеў разматаць вуду: на Вілейшчыне памёр рыбак

ВІЛЕЙКА

15 красавіка каля 12:00 у Вілейскі РАУС паведамілі пра смерць мужчыны на рыбалцы.

Здарэнне адбылося на канале Вілейска-Мінскай воднай сістэмы паміж вёскамі Ерхі і Сосенка.

56-гадовы сталічны жыхар прыехаў раніцай разам з сябрам на рыбалку.

Па словах сябра, мужчына нават не паспеў нацягнуць лёску з новай вуды, яму стала дрэнна.

Пасля медыцынскай экспертызы даведаліся, што мінчанін памёр ад ішэмічнай хваробы сэрца.

## Бойка скончылася паламанай скіўцай

ВІЛЕЙКА

15 красавіка позна ўвечары ў Любані непаўнагадовыя хлопцы не падзялілі дзяўчыну.

Адносіны высвятлялі бойкай.

– Хлопцы выйшлі "на разы". Калі "аргументы кулакамі" скончыліся, адзін з іх стукнуў праціўніка нагой у твар і зламаў яму скіўцу ў двух месцах.

Пра здарэнні распавяла намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**



## Першая сур'ёзная аварыя з матацыклістам здарылася сёлета ў Смаргоні

СМАРГОНЬ

13 красавіка каля 13 гадзін адбылася аварыя ў Смаргоні.

59-гадовы кіроўца аўтамабіля "Нісан" выязджаў з другараднай дарогі. Сутыкнуўся з матацыклам "Ямаха", які рухаўся па галоўнай.

У выніку здарэння 36-гадовы матацыкліст атрымаў пераломы сцягна і галёнкі, іншыя траўмы. Яго шпіталізавалі.

Па факце ДТЗ праводзяць праверку.

**Паводле ДАІ Гродна.**

НАМ ПІШУЦЬ

# На ільянскіх могілках жыве бусел

ВІЛЕЙКА

**Быў напярэдадні Радаўніцы ў Ілы. Прайшоў з матуляй паміж радамі тых, каго ведаў з маленства…**


Фота Людмілы БУРКЕВІЧ.

Многія ўжо тут. Было пра што падумаць і што ўзгадаць. Страху не было, было разуменне таго, што жыццё ідзе сваім кругам і гэта нармальна, хоць і шкада.

Паглядзеў на прыгожыя ды багатыя сучасныя помнікі з агароджамі, на сціплыя, але душэўныя помнікі з далёкага мінулага, клапатліва дагледжаныя рукамі дзяцей ды ўнукаў. Люблю старыя помнікі з агароджамі. Па іх заўсёды відаць клопат нашчадкаў.

Колькі намаганняў, сіл ды любові каштуе дагледзець тое. Год-другі прапусціў – і ўсё: фарба пасыпалася, агароджа пакрылася ржой, а зямля зарасла пустазеллем ды палыном. Таму людзям даводзіцца клапаціцца пра апошнюю сядзібу продкаў кожны год.

Цяпер нашчадкі больш прасунутыя. Грошай на помнік не шкадуюць, а штогадовыя клопаты з задавальненнем скасуюць, замураваўшы могілкі ў бетонную пліту. І ўсё – праблем няма, трава не прарасце, а дарагая агароджа захавае прыгожы выгляд на многія гады.

І гэта ўсё выдатна, канешне, але ж душэўнасць нікуды сыходзіць.

А бусел? А што бусел? А бусел зноў прыляцеў на сваё аблюбаванае месца. Прыбірае разам з людзьмі свой дом, месца, дзе народзяцца яго дзеткі, вырастуць, стануць самастойнымі ды паляцяць у вялікі свет шукаць сваё шчасце. І аднойчы, пралятаючы над родным гняздом, можа, узгадаюць пра родны дом, а можа, і не. Але бацькоў там ужо не будзе…

Вось так і мы, людзі.

**Аляксей БУРКЕВІЧ,**
**Ілья.**

# Толькі адна з пяці арганізацый не мае праблем з чысцінёй


**Парадак трэба наводзіць на ўсіх тэрыторыях. Прыборка парку ў Вілейцы. Фота Ігара МАРОЗА з архіва.**

МАЛАДЗЕЧНА

Цягам сакавіка спецыялісты аддзялення гігіены працы ацанілі тэрыторыі 37 аб'ектаў. Парушэнні ўтрымання тэрыторыі заўважылі ў 81% выпадкаў.

Часцей за ўсё парушэнні патрабаванняў сустракаліся на сельгасаб'ектах і прамысловых прадпрыемствах. Кіраўнікам арганізацый, дзе былі парушэнні, накіраваныя рэкамендацыі аб іх выпраўленні.

Паводле загада Мінскага абласнога выканаўчага камітэта, ад 30 сакавіка да 8 мая абвешчаны месячнік па навядзенні парадку на зямлі, добраўпарадкаванні і азеляненні тэрыторыі. Маладзечанскі райвыканкам прыняў аналагічнае распараджэнне.

## Што трэба зрабіць абавязкова

У ходзе месячніка прадпрыемствам і арганізацыям неабходна забяспечыць высокі ўзровень санітарнага стану аб'ектаў, а менавіта:
- навесці парадак на сваёй і замацаванай тэрыторыі;
- упарадкаваць будаўнічыя матэрыялы;
- адрамантаваць ёмістасці для збору адходаў, пафарбаваць іх, забяспечыць накрыўку, зрабіць маркіроўку з указаннем віду адходаў і звестак пра ўласніка.
- навесці парадак на кантэйнернай пляцоўцы;
- забяспечыць пляцоўку штучным воданепранікальным пакрыццём і агароджай з трох бакоў. Агароджа павінна быць вышэй за ёмістасці для збору смецця;
- заключыць са спецыялізаванымі арганізацыямі па санітарнай ачыстцы тэрыторыі дагавор на аказанне паслуг па вывазе цвёрдых камунальных адходаў і іх абясшкоджванні;

У перыяд правядзення месячніка асаблівая ўвага будзе надавацца ўтрыманню тэрыторыі аб'ектаў рознай формы ўласнасці, месцам масавага адпачынку, тэрыторыі прыватных домаўладанняў як у гарадзе, так і ў вёсках, тэрыторыі гаражных і дачных кааператываў, садаводчым таварыствам, палосам адводу аўтамабільных дарог, прыпыначным пунктам грамадскага транспарту, аб'ектам прыдарожнага сэрвісу, месцам адпачынку, лесапалосам.

Не заставайцеся абыякавымі да нашай зямлі. Чысціня – клопат кожнага!

**Кацярына ЯРАВІКОВА,**
**доктар-гігіеніст аддзялення гігіены працы Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**

# Жыхары Ілы знайшлі ў лесе рэдкі від пралесак

ВІЛЕЙКА

**Фота чароўных пралесак у рэдакцыю даслала наша чытачка з Ілы Людміла Буркевіч.**



Жанчына піша:

– Гэтай вясной мы ладзім вельмі шмат велапрагулак па ваколіцах нашай вёсачкі. На памяць робім фота. І вось у лесе побач са звычайнымі блакітнымі пралескамі мы знайшлі пралескі белага, ружаватага колераў. Сваёй знаходкай падзяліліся са знаёмымі, якія сталі турбавацца за нас — можа, там радыяцыя ці яшчэ што, чаму ж колер такі ў кветак. Ну, мы вырашылі паглядзець у інтэрнэце.

Аказалася, гэта такі сорт, які ў Беларусі рэдка сустракаецца, таму што культура не ўтварае насення, размнажаецца толькі карэнішчамі! Высылаю фота знаходкі.

Пралеска азіяцкая (лац. Hepatica asiatica) разглядаецца як падвід пралескі высакароднай, некаторыя батанікі вылучаюць асобным відам. Вышыня расліны 5-10 см. Лісце не зімуе, трохлопаснае, маладыя лісцікі – ружова-карычневыя, далей цёмна-зялёныя. Кветкі дробныя (да 1,5 см у дыяметры) белыя або ружовыя, радзей блакітныя і фіялетавыя, зрэдку махровыя. Культура не ўтварае насення.

**Аддзел інфармацыі.**

- Прычэп да матаблока. Т. (8-029) 9375945.*
- Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*
- Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Бытавая тэхніка**

- Халадзільнік "Ака" ў рабочым стане, 70 руб. (торг). Самавываз. Т. (8-029) 7738287.*
- Халадзільнік стары б/у ў рабочым стане за сімвалічны кошт. Т. (8-029) 6971901.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- Абаненцкія карты "Трыкалор" – скідкі! Акцыі! Антэны спадарожнікавыя – вялікі выбар, нізкія цэны. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- Антэны спадарожнікавыя "Трыкалор", НТВ+, замена старых прыёмнікаў на новыя. ГПУП "Ліцераль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- **ВУЛЛІ НОВЫЯ.** Т. Вэлком (8-029) 9950326.*
- Індычаняты БІГ-6 і кураняты: бройлерныя КОББ-500, нясушкі, цацаркі. Дастаўка.Т. МТС (8-033) 6908397, Велком (8-029) 6938397.*

**Іншае**

- Сена. Т. (8-029) 6870898.
- Пілавінне, гарбыль з дастаўкай. Т. (8-029) 7876438.*
- Пліта газавая, дзверы драўляныя, санвузел б/у. Т. (8-0176) 548942, моб. (8-044) 7011607.

## КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Бульбу буйную харчовую ў любой колькасці. Т. (8-029) 2637474, (8-033) 6316371.*
- Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*
- Рогі лася, аленя. Т. (8-029)8552646.*

## ПАТРАБУЕЦЦА

- Арганізацыі патрабуецца вадзіцель кат. "Д" на міжгароднія пасажырскія перавозкі. Стаж не менш за 2 гады па кат. "Д". Т. (8-029) 6777092.

**Спутниковое и цифровое ТВ**
**Все виды услуг**
Тел. (8-029) **561 39 72**
ИП Новик С.С. УНП 691398368

- Вадзіцель кат. "С", міжнародныя грузавыя перавозкі, віза. Магчыма пасля 50 гадоў. Т. (8-029) 6636150.
- На **СТА** патрабуецца **АЎТАСЛЕСАР** з досведам працы без шкодных звычак. Т. (8-044) 4791539.

## ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

- Аддзелачнік-тынкоўшчык шукае работу. Вялікі досвед. Т. (8-029) 2775694.*
- Бетонныя, зварачныя работы. Агароджы, кладка блокаў, цэглы Спілоўванне дрэў. Т. (8-044) 7556706, (8-029) 8521268.

**"Рэгіянальная газета"** шукае
**рэкламнага агента**
Заробак неабмежаваны і залежыць ад колькасці арганізаванай рэкламы. Калі вы камунікабельныя, умееце падтрымліваць гаворку, настойлівыя і адказныя, то дасылайце сваё рэзюмэ на адрас reklama@rh.by.

ТРЕБУЕТСЯ:
**Инженер-конструктор**
со знанием САПР
*SolidWorks приветствуется*
Тел. (8-029) **333-00-00**
ООО «Точка опоры» УНП 690387150

СООО **«Детский реабилитационно-оздоровительный центр «Надежда»** приглашает на работу
**МЕДСЕСТРУ-ДИЕТОЛОГА**
**(либо медсестру** с последующей переподготовкой по специальности «Диетология»).
Мы предлагаем: своевременную и достойную оплату труда, стабильную занятость, возможность профессионального роста.
Справки по тел. (8-01771) **3 26 60**
(8-044) **787 70 84**
(Ирина Павловна). УНП 100341872

**Жалюзи Рольшторы**
Замер / Доставка / Установка
Тел. (8-029) **559-29-82**
**359-29-82**
ИП Платонов И.И. УНП 692013467

Организации требуются:
- **ОПЕРАТОР производственной пищевой линии**
- **ПОДГОТОВИТЕЛИ пищевого сырья**
- **ГРУЗЧИКИ**

*Достойная з/плата.*
Тел. (8-029) **307-34-21**,
(8-029) **850-16-08.**
ООО «МИЛайнФуд» УНП 692014080

Динамично развивающемуся сельскохозяйственному предприятию **ООО «Адамово-Агро»** Воложинского района ТРЕБУЮТСЯ молодые целеустремленные СПЕЦИАЛИСТЫ:
- ☑ **Главный зоотехник**
- ☑ **Ветврач**
- ☑ **Ветфельдшер**
- ☑ **Осеменатор**
- ☑ **Зоотехник-селекционер**
- ☑ **Юрист**

Приветствуются семейные пары.
Гарантируем высокую заработную плату по результатам труда. Жилье предоставляется.
Тел. (8-029) **128-30-50** (директор)
УНП 691360808

**БЕТОН**
**РАСТВОР**
ОТ ПРОИЗВОДИТЕЛЯ
**ПЕСОК, ЩЕБЕНЬ, ГРАВИЙ, ПГС**
**УСЛУГИ ПОГРУЗЧИКА**
(погрузочные работы, планировка, котлованы)
**8-044-749-00-56**
**8-029-749-00-65**
ООО «Алисан-Групп», УНП 690551451

Филиалу
**"Молодечненский государственный политехнический колледж"**
УО «РИПО» требуется
**техник-энергетик**
Образование высшее.
Обязательно наличие разряда электромонтёра по ремонту и обслуживанию электрооборудования.
Тел. для справок (8-0176) **77-01-22, 77-04-27** УНП 601080133

**ОАО «Строитель» г. Ошмяны**
для работы на объектах Белорусской АЭС ТРЕБУЮТСЯ:
- ✔ **ПРОРАБ**
  Требования: образование по специальности ПГС; опыт работы от 3-х лет. З/плата от 1200 руб.
- ✔ **РАБОЧИЕ всех строительных специальностей**
- ✔ **МОНТАЖНИКИ по монтажу вентфасадов**

*Жильё предоставляется в г. Островец. Доставка на объекты. З/плата от 700 руб. Опыт работы обязателен.*
Собеседование состоится **13.04.2018г. с 10-00 до 13-00** по адресу: ***г. Молодечно, ул. Притыцкого, 5*** (фойе управления по труду). Собеседование в г. Ошмяны ежедневно.
Тел. (8-01593) **44-962**, (8-029) **130-07-84** УНП 500260683

В связи с расширением производства, организация на постоянную работу ПРИГЛАШАЕТ:
- ☑ **Механизаторов**
- ☑ **Тракториста-машиниста** Амкодор 332
- ☑ **Слесарей по ремонту** с/х машин
- ☑ **Газоэлектросварщиков**

Тел. (8-029) **368-58-63**, (8-01772) **3-75-64**
- ☑ **Зоотехника**
- ☑ **Зоотехника-селекционера**
- ☑ **Ветврача**
- ☑ **Агронома**

Тел. (8-029) **604-65-89**, (8-01772) **3-75-64**
**Жильё предоставляется.** СХУ «Бобровичи» УНП 601055699

СПЕЦИАЛИЗИРОВАННАЯ ПРОДАЖА И РЕМОНТ
ГАРАНТИЯ ДО 3-х ЛЕТ
**ШВЕЙНЫЕ МАШИНЫ, ОВЕРЛОКИ,**
ПАРОГЕНЕРАТОРЫ, КОМПЛЕКТУЮЩИЕ, ЗАПЧАСТИ, ИГЛЫ, НИТКИ, НОЖНИЦЫ
ИП Битель И.И. УНП 600320450
**МОЛОДЕЧНО, Ф.СКОРИНЫ, 8**
(8-0176) 50-12-82, (8-029) 378-73-77

Установка Переустановка **ПАМЯТНИКОВ** и оградок
- Укладка плитки
- Заливка стяжек

**Благоустройство мест захоронений**
МТС +375 (29) **230-76-69**
ЧП "Гармония тепла" УНП 191561778

**Бурение скважин на воду**
сайт www.burlexx.by
Тел. 8 029 128 78 78
ИП Янцевич А.Г. УНП 590945450

**Энергосберегающие окна из ПВХ**
**Ремонт окон любой сложности**
**Отделка откосов и лоджий**
- низкие цены, честные скидки
- рассрочка без банков и без %

тел. 8 029 **870 83 83**
тел. 8 044 **718 19 82**
ООО «ОКНОГРАД». УНП 690639306

**Двери Окна**
◆ Входные ◆ Межкомнатные ◆ Скидки ◆ Рассрочка
КОЗЫРЬКИ
**Замер Доставка Установка**
Велком **8(029) 359-29-82**
МТС **8(029) 559-29-82**
ИП Платонов И.Н. УНП 692013467

**СЕЗОННАЯ** *распродажа*
**бесплатная доставка**
Гарантия 10 лет
**ТЕПЛИЦЫ ИЗ ТРУБЫ** с поликарбонатом 2-ая УФ защита
И.П. Суша М.М. УНП 190791394
**БЕСЕДКИ НА 8 ЧЕЛОВЕК**
8029 **611 52 52**
8029 **737 45 11**

- **ТРУБЫ**
- **уголки**
- **швеллеры**
- **арматура**
- **листы**
- **сетка рабица**

ИЗГОТОВЛЕНИЕ МЕТАЛЛОКОНСТРУКЦИЙ. РЕЗКА. Доставка
***Аренда автокрана***
*г. Молодечно, ул. Рабочая, 8а*
(0176) 50-56-53
58-04-76 (факс)
(029) 196-90-23 (-43) (-53)
www.metallkontrakt.by/
ООО «Молметаллконтракт» УНП 691398156

**Благоустройство и обслуживание мест захоронений**
(8-025) **765-14-74** Лайф
(8-029) **884-86-90** МТС
ИП Окладников Ю.А. УНП 692021134

**БУРЕНИЕ СКВАЖИН НА ВОДУ**
- Высокое качество
- Договор • Гарантия.

Тел. (8-029) **133-65-74**, **844-65-74.**
ИП Гуринович А.В. УНП 691501462

КУПЛЮ
**коня, КРС и др.**
а также вынужденный убой.
Заберу личным транспортом.
Тел. (8-044) **777-44-48**
(8-029) **393-92-56**
ИП Жамойтин Д.В. УНП 590191739

**ОКНА ПВХ ДВЕРИ**
Скидки до 30%
**металлические межкомнатные**
Большой выбор
Кредит. Рассрочка
*Хорошая цена за отличное качество*
Велком (8-029) **690-3-222**
МТС (8-033)
ИП Селицкий В.Т. УНП 691896176

***Окна ПВХ***
***Двери*** *металлические межкомнатные*
***Жалюзи*** *всех типов и моделей*
***Рольшторы***
***Фотопечать***
**АКЦИЯ!**
**При заказе от 3-х окон жалюзи либо рольшторы на одно окно (не более 2-х створок) – ПОДАРОК**
УСЛОВИЯ АКЦИИ УТОЧНЯЙТЕ У МЕНЕДЖЕРА
МТС 8029-874-80-80, 8029-278-19-75
LIFE 8025-512-92-66, 8025-938-99-22
VELCOM 8029-957-97-99
VIBER 8022-512-92-66, 8029-278-19-75
**СКИДКИ ЖИТЕЛЯМ РАЙОНА 30%**
**ЛЮБАЯ ФОРМА ОПЛАТЫ. РАССРОЧКА!**
vk.com/molo_okna
ИП Козел В.Е. УНП 691517355

**ОКНА ПВХ**
металлические, межкомнатные двери
ОКНОГРАД
**РАССРОЧКА до 12 месяцев СКИДКИ до 50%**
**Срок действия акции ограничен**
Тел. (8029) **110-63-91**, (8033) **351-68-39**
ООО "Окноград" УНП 690639306

**СТРОИТЕЛЬНЫЕ МАТЕРИАЛЫ**
- ☑ Рассрочка до **20** мес.
- ☑ Скидки до **50%**
- ☑ Доставка

По оптовым ценам более 200 наименований: сайдинг, кровля, гипсокартон, утеплитель, блоки, кирпич, сухие смеси, заборы и др.
ИП Ринкевич Г. М. УНП 690639306
+37529-**684-58-88**,+37529-**748-98-77**

**Ремонт и реставрация мягкой мебели**
Пенсионерам и инвалидам – скидка 5%
**Изготовление** мягкой мебели под заказ
Диван – в угловой выдвижной диван
Кресло – в кресло-кровать
Кровать – в подъёмную и выдвижную тахту, еврокнигу
**Изменение** дизайна
**Замена** пружинных блоков
Большой **выбор тканей**
**Vel. 8 (029) 114-5-114**
**МТС 8 (029) 706-55-00**

**Распродажа сверхпрочных теплиц**
Срок службы более 25 лет
Бесплатная доставка!
**БЕСЕДКИ** 8-10 человек
**ТЕПЛИЦЫ ИЗ ТРУБЫ** с поликарбонатом | 2-ая УФ защита
ИП Драгеловский И.С. УНП 190676277
Тел. +375 29 **564-29-95**; +375 29 **139-32-42**

*горки, спальни прихожие детские*
*Домотека*
*шкафы-купе кухни и другое*
готовая **МЕБЕЛЬ** на заказ
**РАССРОЧКА 20 МЕСЯЦЕВ**
*Без первого взноса. Без справок.*
**ДВЕРИ**
*Входные стандарт и на заказ*
*Межкомнатные МДФ, экошпон, массив, купе и арки*
**ОКНА** ПВХ
44-5140384 Velc
33-6415426 МТС
*Доставка и замер бесплатно*
ЧП "РайтЛайн" УНП 192583174

**ТЕПЛИЦЫ И БЕСЕДКИ**
**ПОЛИКАРБОНАТ**
АКЦИИ ПОДАРКИ ПЕНСИОНЕРАМ СКИДКИ
**ДОСТАВКА · МОНТАЖ · РАССРОЧКА БЕЗ %**
ТЕЛ. (8033)**373 80 20** МТС (8029)**324 80 20** Велком
WWW. SVKR.BY
ООО "Светопрозрачная кровля" УНП 591001987

**ПАВАЖАНЫЯ ПАСАЖЫРЫ!**
**УП “Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі” інфармуе**
У сувязі з рамонтам чыгуначнага моста
на перагоне Вілейка-Маладзечна
ад 9:10 **23 красавіка** да 18:10 **25 красавіка**

**1. цягнікі рэгіянальных ліній эконамкласа:**
адпраўленнем ад станцый Крулеўшчына, Полацк, Глыбокае
БУДУЦЬ ІСЦІ да станцыі Вілейка і назад
Маладзечна-Вілейка-Маладзечна **СА ШЛЯХОЎ ЗНОСІН ЗДЫМАЮЦЦА**

**2. расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эконамкласа на перыяд рамонтных работ:**

| | | |
|---|---|---|
| **23 красавіка** | | |
| № цягніка | Маршрут руху | Час прыбыцця на ст. Вілейка |
| 6625 | Полацк - Вілейка | 19:05 |
| | | |
| № цягніка | Маршрут руху | Час адпраўлення ад ст. Вілейка |
| 6630/6631 | Вілейка - Глыбокае | 21:10 |
| **24 красавіка** | | |
| № цягніка | Маршрут руху | Час прыбыцця на ст. Вілейка |
| 6622/6621 | Глыбокае - Вілейка | 6:31 |
| 6625 | Полацк - Вілейка | 19:01 |
| | | |
| № цягніка | Маршрут руху | Час адпраўлення ад ст. Вілейка |
| 6626 | Вілейка - Полацк | 9:30 |
| 6630/6631 | Вілейка - Глыбокае | 21:10 |
| **25 красавіка** | | |
| № цягніка | Маршрут руху | Час прыбыцця на ст. Вілейка |
| 6622/6621 | Глыбокае - Вілейка | 6:31 |
| | | |
| № цягніка | Маршрут руху | Час адпраўлення ад ст. Вілейка |
| 6626 | Вілейка - Полацк | 9:30 |

**3. Перавозка пасажыраў паміж станцыяй Маладзечна і станцыяй Вілейка**
БУДЗЕ АЖЫЦЦЯЎЛЯЦЦА аўтобусамі па чыгуначных білетах (БЕЗ ЗАЕЗДУ НА ПРЫПЫНАЧНЫЯ ПУНКТЫ: Тышкевічы, Даманоўскі, Чырвоны Беражок, Зеніт).

**4. расклад руху аўтобусаў:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| **23 красавіка** | | | |
| **Вілейка-Маладзечна** | | **Маладзечна-Вілейка** | |
| Адпраўленне ад ст. Вілейка | Прыбыццё на ст. Маладзечна | Адпраўленне ад ст. Маладзечна | Прыбыццё на ст. Вілейка |
| 19:10 | 19:55 | 20:14 | 20:59 |
| **24 красавіка** | | | |
| **Вілейка-Маладзечна** | | **Маладзечна-Вілейка** | |
| Адпраўленне ад ст. Вілейка | Прыбыццё на ст. Маладзечна | Адпраўленне ад ст. Маладзечна | Прыбыццё на ст. Вілейка |
| 6:41 | 7:26 | 8:35 | 9:20 |
| 19:10 | 19:55 | 20:14 | 20:59 |
| **25 красавіка** | | | |
| **Вілейка-Маладзечна** | | **Маладзечна-Вілейка** | |
| Адпраўленне ад ст. Вілейка | Прыбыццё на ст. Маладзечна | Адпраўленне ад ст. Маладзечна | Прыбыццё на ст. Вілейка |
| 6:41 | 7:26 | 8:35 | 9:20 |

**Просім вас улічыць, што працягласць паездкі ў гэты дзень павялічыцца.**
Даведкі па тэл. **105, 80176-74-24-23**

УНП 600199541



## Курсіраванне цягнікоў міжнародных і міжрэгіянальных шляхоў зносін

У сувязі з рамонтам чыгуначнага моста на ўчастку Маладзечна – Полацк мяняецца графік руху цягнікоў міжрэгіянальных ліній:

# №87/88
# Мінск - Рыга-Мінск
# 23 красавіка

адпраўленнем да **ст. Рыга ў 22:16**

# 25 красавіка

адпраўленнем да **ст. Мінск у 06:37**

# адмяняюцца

**і ўстанаўліваюцца ў шляхі зносін Мінск-Рыга праз ст. Орша, Віцебск**
**адпраўленнем ад ст. Мінск у 18:44**

# 24 красавіка
# №80
# Калінінград-С.-Пецярбург

адпраўленнем ад **ст. Маладзечна ў 20:16**
будуць ісці зменены маршрутам праз ст. Мінск, Орша, Віцебск і прыбыццём на ст.С.-Пецярбург у **11:44**

## Курсіраванне цягнікоў міжнародных і міжрэгіянальных шляхоў зносін

У сувязі з рамонтам чыгуначнага моста на ўчастку Маладзечна – Полацк мяняецца графік руху цягнікоў міжрэгіянальных ліній:

# 23, 24 красавіка
**№625 Мінск - Віцебск**
адпраўленнем да **ст. Віцебск ў 23:21**

# 24, 25 красавіка
**№626 Віцебск - Мінск**
адпраўленнем да ст. **Мінск у 04:53**

# адмяняюцца

**і ўстанаўліваюцца ў шляхі зносін Віцебск - Крулеўшчына – Віцебск**

# 24, 25 красавіка
**№740 Полацк - Мінск**
адпраўленнем да **ст. Мінск у 08:44**

# 23, 24 красавіка
**№739 Мінск - Полацк**
адпраўленнем да **ст. Полацк у 18:35**

# адмяняюцца

# Галоўны доктар Наталля Капцюг: “Адміністратар ні ў якім разе не можа кідаць практыку”

МАЛАДЗЕЧНА

**Кабінет загадчыцы гарадской паліклінікі №3 на наступны дзень пасля яе юбілею патанаў у кветках і шарыках. Са святам Наталлю Капцюг віншавалі калегі, пацыенты і падначаленыя.**



Фота з архіва Наталлі КАПЦЮГ.

Наталля Капцюг не спыняе прыёму пацыентаў, якой бы ні была адміністрацыйная нагрузка.

Далучыцца да віншаванняў запрасілі і чытачы “РГ”.

### Як стала галоўным доктарам

У медыцыну Наталля Георгіеўна, як і яе малодшая сястра **Жанна Георгіеўна**, прыйшлі праз маці. Яна працавала медсястрой у маладзечанскай радзільні ў палаце нованароджаных. З малых гадоў дзяўчаты ведалі, што такое боль і чаму так важна, каб медыкі маглі яго спыніць.

Пасля маці перайшла ў абласную станцыю пералівання крыві. Наталля з сястрой часам хадзілі да мамы на дзяжурствы, яна шмат расказвала пра працу і паступова зацікавіла медыцынай дочак.

– Я адгаворвала сястру ісці ў медыцыну, на што яна жартавала: “Ага, хітранькая, сама закончыла мед, а мяне адгаворваеш”.

Цяпер сёстры працуюць у суседніх кабінетах.

Адразу пасля інстытута Наталля замяняла галоўнага доктара ў Альковічах, пасля перавялі ў Касцяневічы, дзе праз 1,5 месяца прызначылі галоўным доктарам участковай бальніцы.

Калі закончыўся тэрмін размеркавання, вярнулася ў роднае Маладзечна. Працавала ўчастковым доктарам-тэрапеўтам, раённым кардыёлагам, доктарам кабінета функцыянальнай дыягностыкі. На апошнюю пасаду спакусілі тым, што ў гарадской паліклініцы можна было стаць у чаргу на жыллё.

У 2000-м прапанавалі ехаць на сумоўе на пасаду галоўнага доктара чыгуначнай паліклінікі. Спачатку было шмат сумненняў, але ўсё ж паехала, і на пасаду зацвердзілі.

### Асабістае: як падтрымлівае здароўе і ці стаў сын медыкам

Сын Георгі, якога назвалі ў гонар бацькі Наталлі, не стаў працягваць медыцынскую дынастыю – закончыў ваенную акадэмію. Цяпер капітан, служыць у Валожыне і атрымлівае другую адукацыю – праграмаванне.

Доктар стараецца сачыць за сваім здароўем, хаця і вельмі загружаная. Работы вельмі шмат, і часу на сябе проста не хапае. Тым не менш, яна абавязкова робіць штораніцу зарадку.

Калі ўдаецца адпачыць, галоўнае, каб не сядзець на месцы.

Падабаюцца жаночыя фільмы і серыялы пра дактароў, напрыклад, “Хуткая дапамога”.

### Да чаго імкнецца

У дактароў ёсць прафесійная адметнасць – часам можа з першага погляду прыкладна ацаніць, якая хвароба ў суразмоўцы.

Дасведчанасць і адказнасць прыносяць вынік – здароўе пацыентаў. А галоўнае, што ў адказ атрымлівае доктар – словы падзякі.

– Яны каштуюць вельмі дарагога, – кажа юбілярка. – А самая галоўнае падзяка – паляпшэнне здароўя пацыента. Каб паляпшалася самадачуванне кожнага. Хочацца, каб усе доўга жылі з роднымі і блізкімі, мелі шмат часу на тое, каб правесці час разам. За жыццё трэба паспець падарыць дабро.

### Складанасці ў працы

Для доктара Капцюг найбольш блізкая тэрапія з кардыялагічным ухілам. І колькі б часу ні ішло на кіраванне паліклінікай, яна не спыняе прыёмы.

– Галоўным дактарам нельга ні ў якім выпадку кідаць практыку, – упэўненая суразмоўца. – Якой бы ні была адміністрацыйная нагрузка, любы доктар павінны працягваць весці прыёмы. Часам заседжваюся дапазна, таму што днём прыёмы, а пасля ўжо бяруся за адміністрацыйныя справы. Даводзіцца прасіць затрымацца сакратара. Прашу прабачэння ў яе, ну, але што ж зробіш. І працаваць трэба не вузка, а пашыраць свае веды, пастаянна ездзіць на курсы. Калі адміністратар не разбіраецца, як жа можа праверыць прызначэнні?

Аднак ва ўзначальванні ўстановы аховы здароўя даводзіцца сутыкацца з рознымі сітуацыямі. Часам трэба разбіраць крытычныя звароты.

– Без крытыкі ніяк, – прызнаецца галоўны доктар. – Бывае, пацыенты скардзяцца, але і дактароў можна зразумець, нагрузка на іх вялізная – стамляюцца, папер шмат. І пацыентаў зразумець можна, ім хочацца атрымаць і ўвагу, і павагу.

### У медыцыне няспынна паляпшаюць умовы

Добрых вынікаў калектыву на чале з Наталляй Капцюг атрымліваецца дасягаць толькі пры зладжанай рабоце каманды і падтрымцы цэнтральнай раённай бальніцы і райвыканкама.

– Падабаецца назіраць, як развіваецца медыцына, узнікаюць новыя метады лячэння, – дзеліцца Капцюг. – У новага галоўнага доктара шмат ідэй па рэарганізацыі і паляпшэнні якасці медыцынскай дапамогі. Мы толькі за. Значна палепшылася абсталяванне. Цяпер у кабінеце кожнага тэрапеўта ёсць камп’ютар і прынтар, унутры паліклінікі працуе сетка – усё робіцца для хуткай і добрай камунікацыі. Паступова паляпшаюць адмысловае абсталяванне. Нядаўна абнавілі рэнтгенкабінет, а на чарзе яшчэ шмат паляпшэнняў. Галоўнае, каб усё было на здароўе.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Даведка “РГ”. Наталля Георгіеўна Капцюг** нарадзілася 13 красавіка 1958 года ў Маладзечне. Закончыла СШ №8. У 1983 годзе – Мінскі дзяржаўны мединстытут па спецыяльнасці лячэбная справа. Ад 1984 працавала галоўным доктарам у Касцяневічах. Ад 1987 працавала ўчастковым тэрапеўтам. У 1993 скончыла клінічную ардынатуру на кафедры тэрапіі пры інстытуце ўдасканалення дактароў у Мінску.
Ад 1993 працавала доктарам-кардыёлагам раённай бальніцы, праз год перайшла ў кабінет функцыянальнай дыгностыкі гарадской паліклінікі. Ад 2000 года ўзначальвала вузлавую паліклініку на станцы Маладзечна, якая ў 2012 годзе стала гарадской паліклінікай №3.



Назва калажа “Штодня”.

## У Чырвоным касцёле ў Мінску прэзентавалі фотаальбом “Містэрыі Гервятаў”

АСТРАВЕЦ

18 красавіка ў мінскім Чырвоным касцёле прайшла прэзентацыя фотаальбома **Валера Вядрэнкі** “Містэрыі Гервятаў”, які нядаўна выйшаў у выдавецтве “Тэхналогія”.

Крыніцай натхнення аўтара стаў касцёл Святой Тройцы ў Гервятах – паўночная перліна беларускай неаготыкі. Змешчаныя ў кнізе фотаздымкі перадаюць, паводле слоў мастака, непаўторную і натхняльную моц архітэктуры храма, напаўняюць пачуццём гонару за высокі ўзор стылю і дасканалы вобраз увасобленай веры, нагадваюць пра веліч мінуўшчыны і даюць надзею на рэнесанс.

У альбом увайшлі працы, створаныя ў 2008–2013 гадах. Гэта дакументальныя фотаздымкі рэстаўрацыі і вонкавага аблічча касцёла ў розныя поры года; фасады і інтэр’еры, стылізаваныя пад фотагравюры канца 19 – пачатку 20 стагоддзя; фотапластычныя кампазіцыі на тэмы Евангелля. Асобную частку складае рэпартаж пра святкаванне Вялікадня 23-24 красавіка 2011 года.

Альбом прысвечаны ксяндзу **Леаніду Нісцюку**, намаганнямі якога святыня была вернутая да жыцця. Ён неаднойчы казаў, што ў аднаўленні храма ўклад тутэйшых жыхароў быў самым важкім і вызначальным. І гэта стала галоўным матывам стварэння апошняй часткі альбома.

Сярод удзельнікаў імпрэзы – аўтар Валер Вядрэнка, рэдактар выдання **Зміцер Санько**, мастацтвазнаўца **Таццяна Гаранская**, фотамастак і літаратар **Георгі Ліхтаровіч**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пройдзе першая рэгіянальная прэмія ў галіне паслуг і забаў

МАЛАДЗЕЧНА

Мерапрыемства адбудзецца 11 мая ў RED BAR.

FRAme – First Region Awards Molodechno – гэта цырымонія ўзнагароджання лепшых прадстаўнікоў сферы паслуг і забаў у горадзе Маладзечна.

Пераможцаў абіраюць на падставе:

1) народнага галасавання ў групах: FRAme, прызнанні Маладзечна, RED BAR,

2) галасавання намінантаў,

3) меркавання экспертнай камісіі.

Па выніках галасавання будуць вызначаны ўладальнікі прэмій у намінацыях: “Лепшы рэстаран”, “Лепшы бар”, “Лепшае кафэ”, “Лепшы клуб”, “Лепшы фаст фуд”, “Лепшы дыджэй”, “Лепшы бармен”, “Лепшы вядучы”, “Лепшы фатограф”, “Лепшы праект”, “Прарыў года”, “Хуткі старт”, “B and B” (гасцініцы, месцы адпачынку, сядзібы), “Лепшы спартыўны клуб”, “Лепшы трэнер”, “Лепшае таксі горада”, “Лепшы більярдны клуб”, “Лепшы салон прыгажосці”, “Лепшы цырульнік”, “Лепшы візажыст”.

Пераможцы ў кожнай намінацыі атрымаюць памятныя ўзнагароды і падарункі ад партнёраў прэміі.

Стаць намінантам і ўладальнікам прэміі – значыць, атрымаць прызнанне прафесіяналаў і грамадскасці, а таксама PR-падтрымку сваёй дзейнасці, праекта або свайго бізнесу, атрымаць асалоду ад святочнага вечара ў коле прафесіяналаў і прадстаўнікоў сферы паслуг і забаў.

FRAme стане ўнікальнай падзеяй для нашага горада, у рамках якога збяруцца ў адным месцы яркія прадстаўнікі індустрыі забаў і паслуг.

Інфапартнёры: рэкламнае агенцтва “Медиакор”, “Рэгіянальная газета”, інфармацыйны партал Vmoloby.

Арганізатарам мерапрыемства выступае ТАА “РЭДБАР”.

**Аддзел інфармацыі.**

# Не цягніце з тэхаглядам маламерных суднаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзяржаўная інспекцыя па маламерных суднах раіць не адкладаць на май-чэрвень праходжанне тэхагляду, а рабіць гэта ўжо цяпер.**

Так можна зэканоміць час, бо бліжэй да лета ў інспекцыі палову працоўнага дня стаіць чарга з 50 чалавек. І некаторыя не паспяваюць у той жа дзень патрапіць на прыём у дзяржаўную інспекцыю па маламерных суднах

Да агляду інспектару трэба падаць і судна, і рухавік, і нормы камплектацыі да яго. Таму не губляйце час, не чакайце ажыятажу.

Для тых, хто плануе зарэгістраваць сваё маламернае судна, нагадваем, што ў вас на гэта ёсць 30 дзён з моманту яго набыцця. Не трэба цягнуць да лета і плаціць за несвоечасовую рэгістрацыю немаленькі штраф.

Што да ахвотных прадаць сваё судна, то ў іх ёсць 14 сутак на ўнясенне змяненняў у карабельную кнігу. Інакш зноў жа прыйдзецца плаціць штраф.

У першыя месяцы года ўчасткі дзяржінспекцыі па маламерных суднах прымалі максімальна пяць чалавек на дзень. Часта бывала і такое, што за працоўны дзень ніхто не з'яўляўся.

Увосень шмат грамадзян захацелі менавіта зімой і вясной навучыцца кіраваць маламернымі суднамі з магутнасцю рухавіка звыш 3,7 кВт.

### І зноў пра бяспеку

Хочацца звярнуцца не толькі да саміх суднаўладальнікаў, але да іх родных і блізкіх. Памятайце, што неад'емнай часткай пры выхадзе на ваду з'яўляюцца меры бяспекі. Таму звяртайце ўвагу на наяўнасць зашпіленай выратавальнай камізэлькі на кіроўцы судна, без іх не выходзьце ў плаванне.

У 2017 годзе ў выніку парушэнняў Правілаў эксплуатацыі маламерных суднаў у краіне загінулі дзевяць чалавек. Усе яны не мелі індывідуальных сродкаў выратавання – выратавальных камізэлек.

Летась за розныя парушэнні на маламерных суднах дзяржінспекцыя прыцягнула да адказнасці 94 правапарушальнікаў.

Дзверы інспекцыі адчыненыя для ўладальнікаў маламерных суднаў і для тых, хто хоча імі стаць.

Па ўсіх пытаннях, якія ўзнікаюць адносна маламерных суднаў, звяртайцеся ў дзяржінспекцыю.

Адрас інспекцыі: **Маладзечна, вуліца Віленская, 7**. Тэлефон **8 (0176) 75-58-20**. Рэжым працы: аўторак-субота 8:00-13:00, 14:00-17:00. Выхадныя: нядзеля, панядзелак.

Кожны трэці чацвер месяца для ажыццяўлення адміністрацыйных працэдур грамадзян у інспекцыі не прымаюць, бо праводзіцца дзень інфармавання.

Асабісты прыём: другая серада месяца ад 8:00 да 13:00.

**Андрэй МОНІТ, дзяржінспектар Маладзечанскага ўчастка.**






Архіў "РГ".

На Нарачы.

# "Сонечны", Асіпавічы, вадасховішча

## На якіх пляжах Вілейшчыны можна будзе адпачыць сёлета

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

**Тры афіцыйна дазволеныя пляжы на Вілейшчыне чакаюць адпачывальнікаў сёлета, распавялі ў Вілейскай выратавальнай станцыі.**

Гэта пляж ля сажалкі ў Асіпавічах, пляж "Сонечны" на Віліі ўздоўж вуліцы Савецкай і гарадскі – на Вілейскім вадасховішчы. Ён таксама ў межах горада. Гэта канцавы прыпынак аўтобуса, што ідзе па чацвертым маршруце. Месцы для адпачынку прыпісаныя ў рашэнні райвыканкама ад 28 лютага.

### Дзе можна

Штогод, вызначаючы месцы для купання, спецыялісты карыстаюцца дакументам – Правіламі аховы жыцця людзей на вадзе Рэспублікі Беларусь. Рашэнне дазволіць ці не прымаюць сумесна супрацоўнікі арганізацыі выратавання на вадзе, кіраўніцтва Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, начальнік аддзела ЖКГ Вілейскага райвыканкама і начальнік інспекцыі аховы прыродных рэсурсаў.

Сёлета афіцыйна дазволеных для купання месцаў на Вілейшчыне менш, чым летась, распавяла старшыня Вілейскай раённай арганізацыі выратавання на вадзе **Алена Граковіч**.

### Дзе нельга

У 2018 годзе забаранілі купацца на вадаёмах, што на тэрыторыі вытворчых памяшканняў мэблевай фабрыкі на Валынца, у Салдацкім возеры ў Дубаўцы, у кар'еры ў Снежкаве, у сажалках, што месцяцца пры ўездзе ў Вілейку з Маладзечна, і ў мікраёне Воўкаўшчына, у водных акваторыях побач з комплексам "Кветкі яблыні" і на зоне адпачынку "Жоўты бераг". У астатніх месцах на вадаёмах Вілейшчыны купацца таксама забараняюць да прыняцця адпаведнага рашэння.

Супрацоўнікі Вілейскай ЖКГ да сезона купання павінны будуць устанавіць указальнікі для тых вадаёмаў, дзе купанне забаранілі.

### З'явяцца альтанкі і грамадскія прыбіральні

Згодна з планам, усе пляжы, дзе дазволена купацца, добраўпарадкуюць, адрамантуюць, пачысцяць ад смецця. Паставяць лежакі, альтанкі, ценявыя навесы, маскі для ўваходжання ў ваду, інфармацыйныя стэнды, абсталююць спартыўную зону, пры патрэбе адрамантуюць альтанкі і лаўкі, што стаялі раней. Таксама на пляжы павінны з'явіцца кантэйнеры і сметніцы, грамадскія прыбіральні. Абсталююць раздзявалкі, а на дзіцячую пляцоўку завязуць пясок, установяць буі.

Большасць з запланаванага спецыялістам ЖКГ, арганізацыі выратавання на вадзе, водаканалу неабходна зрабіць за май. Цяпер, па словах Алены Граковіч, спецыялісты займаюцца абнаўленнем інфармацыі на стэндах, што ўсталяваныя на пляжах.

### 12 пляжаў чакаюць адпачывальнікаў на Мядзельшчыне

Як распавёў "Рэгіянальнай газеце" начальнік Мядзельскай выратавальнай станцыі **Дзмітры Дамшэль**, на Мядзельшчыне рашэнне пра дазволеныя для купання пляжы прымаюць у апошнія майскія дні. Аднак пералік такіх месцаў для адпачынку не мяняецца ўжо некалькі год. Хутчэй за ўсё, сёлета іх будзе 12. Магчыма, зачыняць адзін з пляжаў, што на тэрыторыі "Зубраняці".

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Фотаздымкі Красненскага касцёла захоўваюцца ў Кракаве



Ксёндз Юзаф Марсангер сфатаграфаваны са старэйшым па ўзросце мужчынам. Улічваючы знешняе падабенства, можна меркаваць, што гэта яго бацька – Фердынанд Марсангер, які атрымаў магчымасць наведаць сына ў Красным.

МАЛАДЗЕЧНА

**Архівы вельмі часта дораць нечаканыя знаходкі. Падчас працы ў кракаўскіх ордэнскіх архівах (місіянерскім, дамініканскім, езуіцкім, францысканскім) прыемнай знаходкай сталі фотадакументы, якія нагадалі пра Краснае.**

Знаходзяцца яны ў архіве правінцыі Паўднёвай Польшчы ксяндзоў-езуітаў. Што ж стала прычынай таго, што фотаздымкі з Краснага сярэдзіны мінулага стагоддзя апынуліся на поўдні Польшчы, у архіве, у які трапляюць рэдкія даследчыкі? Справа ў тым, што ў перыяд ад 1944 да 1968 года ў Красненскім касцёле працаваў святар з ордэна езуітаў **Юзаф Марсангер**.

Нарадзіўся ён 24 сакавіка 1902 года ў Кракаве, у сям'і чыгуначніка. Пасля заканчэння школы ўступіў у ордэн езуітаў. Шмат вучыўся: у Любліне, Вільні. Да вайны працаваў выкладчыкам у школах Вільні, з 1939 года – у касцёлах Ракава і Будслава. У 1944-м ад Віленскага арцыбіскупа **Рамуальда Ялбжыкоўскага** атрымаў прызначэнне на працу ў Красненскі касцёл.

## У Краснае выклікаліся дадатковыя цягнікі, каб развезці людзей пасля святаў

У пасляваенны час Краснае стала месцам, куды прыязджалі каталікі з усёй Міншчыны, а таксама з усходу Беларусі, дзе не дзейнічала аніводнага касцёла.

**У 1959 годзе ў важнейшыя рэлігійныя святы колькасць людзей, якія ўдзельнічалі ў такіх набажэнствах, перавышала 2 500 чалавек.**

Начальніку чыгуначнай станцыі Уша давозілася нават выклікаць дадатковыя цягнікі, каб усе людзі пасля святаў мелі магчымасць вярнуцца дадому. У сакрэтнай дакладной запісцы на імя П. Лабуса ад 17 жніўня 1961 года адзначана: "В м-ке Красное религиозный праздник начался тогда, когда поезд из гор. Минска привез в Красненский костел более 1 000 верующих. Этим поездом ехали верующие: из Минска, Дзержинска, Борисова, Заславля, Олехнович; несколько человек было из Орши и других мест.

Религиозный праздник "Успение Богородицы" продолжался с 11 часов утра до 17 часов вечера. После 17 часов верующие, которые прибыли из Минска, все не уехали, так как не было свободных мест.

Начальник станции Уша в разговоре со мной сказал, что ему пришлось затребовать специально пассажирский состав из Минска для того, чтобы всех граждан отправить по направлению Минска. В этот день кассирша ст. Уша продала ж/д билетов в сторону Минска 618. По заявлению ревизоров половина прибывших граждан из Минска, Заславля, Олехнович имели обратные железнодорожные билеты.

Из общего количества верующих, прибывших поездом, были в основном пожилых возрастов и преобладающее количество женщин. Детей школьного возраста прибыло с родителями около 25, и молодежи до 25 лет около 50 человек.

На религиозный праздник "Успение Богородицы" к костелу прибыло довольно большое количество престарелых верующих, инвалидов, которые сидя на лестнице просили милостыню. Кроме того, часть инвалидов привезли с собой самодельные конфеты разных форматов, религиозную утварь разных форматов и др.

По нашему настоянию (я был с Пономаревым), участковый милиционер пригласил в сельсовет тех, кто продавал религиозную утварь, составил акт и отправил их в Молодечно в ОБХС.

В Молодечненском и



Яшчэ адзін групавы фотаздымак, зроблены ў сценах Красненскага касцёла – гэта фота ўдзялення сакраманту шлюбу. На ім прысутнічае маладая пара, кс. Юзаф Марсангер і міністрант. На жаль, складана вызначыць асоб, якія адлюстраваныя на фотаздымку.

Лебедевском костелах в этот религиозный праздник было мало верующих: в Молодечненском костеле около 80 человек и в Лебедевском около 150 человек".

Менавіта ксяндзу Марсангеру належала духоўная падтрымка мінскіх вернікаў у справе адкрыцця касцёла ў Мінску, дзе з 1945 года не дзейнічала аніводнага касцёла.

Лакальныя ўлады і ўпаўнаважаныя па справах рэлігійных культаў заўсёды давалі ксяндзу рэзкія характарыстыкі толькі таму, што ён быў святаром і выконваў свае абавязкі.

Адзначалі: "В беседах с Марсангером и советско-партийным активом выяснено, что он является ярким приверженцем католицизма, ксендзом-фанатиком, питающий скрытую звериную злобу против советского государства, но создающий видимость лояльности, пытается не нарушать советское законодательство о культах. (…) Как выяснено, Марсангер проводит большую работу среди верующих по удерживанию их в лоне религии, для этого использует все возможности и как можно больше общения с верующими с целью полного удовлетворения их требований, для этого использует свои визиты к больным, проживающим не только в Красненском приходе, но пытается обслуживать верующих, проживающих за пределами своего прихода. Только Советское законодательство о культах сдерживает "кипучую" деятельность Марсангера.

Закон, не разрешающий служителю культа обслуживание больных верующих за пределами прихода, Марсангер назвал не гуманитарным и заявил, что за последние 2-3 года чувствуется сильный нажим со стороны партийных органов на отрыв верующих от религии, верующие стали меньше посещать костел, но катастрофического положения нет".

Разам з гэтым, вернікі з вялікай цеплынёй і пашанай згадваюць святара, звязваючы з яго асобай той факт, што Красненскі касцёл ніколі не быў закрыты.

**Раіса ЗЯНЮК,**
**кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі.**

Працяг будзе.

**Фотаздымкі з архіва правінцыі Паўднёвай Польшчы ксяндзоў-езуітаў (Кракаў).**

КАЛЯНДАР

21 КРАСАВІКА

**185 гадоў** з дня нараджэння **Віктара Отана Каліноўскага** (1833–1862), гісторыка, археолага, бібліяфіла, удзельніка нацыянальна-вызваленчага руху 1860-х гадоў. Старэйшы брат Кастуся Каліноўскага. Вучыўся ў Свіслацкай і Гродзенскай гімназіях, на медыцынскім факультэце Маскоўскага ўніверсітэта. Ад 1856 у Пецярбургу. Па даручэнні Віленскай археалагічнай камісіі працаваў у Імператарскай публічнай бібліятэцы, адшукваў старадаўнія рукапісы па гісторыі Літвы і Беларусі. У 1858-62 – адзін з кіраўнікоў нелегальнай рэвалюцыйнай арганізацыі, якую складалі выхадцы з Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны ў Пецярбургу. Распаўсюджваў сярод членаў арганізацыі гістарычную літаратуру, займаўся вярбоўкай новых членаў, наладжваў сувязі з рэвалюцыйнымі арганізацыямі Кіева і Масквы. Восенню 1862 захварэў на сухоты, выехаў да бацькі ў фальварак Якушова Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні, дзе і памёр. Сабраў унікальную бібліятэку, якая налічвала больш за 5000 рукапісаў і кніг, прысвечаных галоўным чынам гісторыі ВКЛ.

23 КРАСАВІКА

**1793.** 225 гадоў з часу ўтварэння Мінскай губерні (існавала да 1921 г.).

**75 гадоў** назад (1943) ЦК КП(б)Б прыняў пастанову аб арганізацыі пры ЦК КП(б)Б школы па падрыхтоўцы партыйных і партызанскіх кіруючых кадраў і зацвердзіў кантынгент слухачоў.

26 КРАСАВІКА

**1986. Дзень чарнобыльскай трагедыі.**

**155 гадоў** з дня нараджэння **Яўстафія Арлоўскага** (1863 – 1913), беларускага гісторыка, краязнаўца і педагога. Ён унёс значны ўклад у захаванне гістарычнай памяці Гродна. Нарадзіўся ў в.Славенск Ашмянскага павета Віленскай губерні, цяпер Валожынскі раён. Даследаваў гісторыю Гродна, адзначаў росквіт яго ў часы ВКЛ, станоўча ацэньваў ролю магдэбургскага права. Даказаў тоеснасць летапіснага Городень і сучаснага Гродна на Нёмане. Аўтар аднаго з першых даследаванняў гісторыі горада ад заснавання да пачатку 20 ст. ("Гродзенская даўніна", ч. 1. Гродна, 1910).

**1978.** У красавіку 40 гадоў назад уступіў у эксплуатацыю Мінскі завод шампанскіх він (цяпер адкрытае акцыянернае таварыства "Мінскі завод пеністых він").

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Сорак літраў бярозавага соку выпілі на першым вясновым фэсце

ВІЛЕЙКА

**13 красавіка ў Вілейскім дзяржаўным каледжы ўпершыню зладзілі вясновы фэст. Дырэктар каледжа Ігар Кіцікаў мяркуе, што свята стане штогадовым, як "Дранік-шоу" восенню або "Дзень судака" зімой.**

– Раней мы вясной праводзілі Масленіцу, – распавёў "Рэгіянальнай газеце" Ігар Сямёнавіч. – А пасля падумалі, што хочацца чагосьці свайго, асаблівага. Масленіца ж ва ўсіх гарадах у рэгіёне праводзіцца. І Гуканне вясны штогод ладзяць у Вязынцы. Вось мы і вырашылі зрабіць свой вясновы фэст.

**Па словах дырэктара, частку традыцый, напрыклад, бліны, узялі з Масленіцы, спевы і стварэнне вясновых вобразаў – з Гукання вясны.**

Дачакаліся, пакуль пачнецца сезон бярозавага соку.

Сок набылі ў Вілейскім доследным лясгасе. Крыху раней на тэрыторыі каледжа вучні збіралі салодкі кляновы сок і гатавалі напоі з яго.

### Цукар, лімонка і цукеркі "Дзюшэс"

Па словах майстра вытворчага навучання **Алены Фірс**, да фестывалю навучэнцы пад кіраўніцтвам педагогаў прыгатавалі два напоі з бярозавага соку. Кожнага – па 20 літраў. У нашай размове Алена Станіславаўна адкрыла кулінарныя сакрэты:

– Першы напой гатавалі так. Бралі солад для квасу, дрожджы, 20 літраў бярозавага соку. Напой брадзіў чатыры дні. Атрымаўся квас на аснове соку. Каб прыгатаваць другі напой, у сок дадалі цукар, лімонную кіслату, цукеркі "Дзюшэс" для паху. Усё гэта пракіпяцілі. А пасля паставілі ахалоджваць.

Да напояў было печыва. Шарлотка, пячэнне, бліны з чорнай і чырвонай ікрой, свежымі замарожанымі суніцамі, павідлам. Усё печыва гатавалі раніцай перад святам.

**І толькі бліны хлопцы-повары выпякалі на вачах ва ўдзельнікаў.**

Усё можна было адразу ж пакаштаваць.

### А вы ведалі, якое дрэва распускаецца найпазней?

Не сядзелі без справы і будучыя цырульнікі-візажысты. Яны стваралі вобразы мадэлям. Рабілі прычоскі на аснове кос, макіяж, бодзі-арт.

Для ўдзельнікаў арганізатары прапанавалі віктарыну з вясновымі пытаннямі.

– Якое дрэва распускаецца пазней за астатнія? – пытаецца ў прысутных вядучы віктарыны **Леанід Курц**.

І пасля некалькіх няўдалых спробаў знаходзіцца правільны адказ. Гэта дуб. Удзельнікаў, якія давалі правільныя адказы, узнагароджвалі магнітамі, зробленымі спецыяльна для фестывалю.

Паабяцалі падарункі і тым, хто выкладзе самыя лепшыя фотаздымкі са свята ў суполку каледжа ў сацыяльных сетках.

Арганізатары падумалі і пра аматараў спорту. Каманда СШ №1 спаборнічала з камандай каледжа ў эстафеце: насілі ваду лыжкай, гулялі ў гарадкі.

Для гасцей выступалі ўдзельнікі рыцарскага клуба, што працуе ў каледжы, навучэнцы прапанавалі песні і танцы ва ўласным выкананні.

### Сакрэты ад доктара

Доктар з Вілейскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Ягор Горбач** падзяліўся з удзельнікамі сакрэтамі здаровага ладу жыцця. На яго думку, на вясновым фестывалі былі выкананыя якраз усе правілы: свежае паветра, карыснае харчаванне, эстэтычная асалода ад мастацкіх нумароў.

### Прафарыентацыя і сацыяльныя сеткі

На думку дырэктара Ігара Кіцікава, такія мерапрыемствы заўсёды маюць прафарыентацыйную скіраванасць. Ужо праз пару гадзін пасля фестывалю, заўважыў Ігар Кіцікаў, фотаздымкі з'явяцца ў сацыяльных сетках.

**Іх паглядзяць маладыя людзі і, магчыма, зробяць свой прафесійны выбар на карысць каледжа. Хутка ж уступная кампанія!**

Усё для той жа прафарыентацыі запрасілі вучняў вілейскіх школ з настаўнікамі: дзесяць чалавек ад кожнай.

Сёлетні фэст стане штогадовай візітоўкай каледжа ў вясновы час. Усе астатнія поры года тут даўно ўжо маюць такія візітоўкі. Восенню ёсць бульба і грыбы, а значыць і святы – "Дранік-шоу" і "Сырая сыраежка". Зімой на Вілейскім вадасховішчы аматары рыбакі-педагогі ловяць рыбу, таму традыцыйным стаў Дзень судака. А бліжэй да лета будучых кіроўцаў чакае традыцыйны конкурс "Аўташоу" з практыкаваннямі на аўтадроме і праверкай правілаў дарожнага руху.

**Фота аўтара.**



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)



Дырэктар каледжа Ігар Кіцікаў сярод вясновых прыгажунь.



Маша і Вадзім атрымалі фестывальныя магніцікі за правільныя адказы.





Дэманстрацыя вясновых вобразаў.

# Маладзечанцы абліваліся вадой і кідаліся фарбамі



На фестываль фарбаў, што прайшоў 15 красавіка ў парку, прыйшлі пераважна школьнікі. Завіталі і некаторыя маладыя бацькі. Дзеткам усіх узростаў вельмі спадабалася кідацца фарбамі.



Большасць гасцей выходзілі са свята з ружовымі, сінімі, зялёнымі плямамі.



Калі добры настрой і музыка па густу, весяліцца і танцаваць на ўсю можна і днём.



Музыканты абліваліся вадой, а танцоры былі толькі рады. Ад вады фарбы змешваліся, і госці станавіліся яшчэ больш стракатымі.



За тры гадзіны на пляцоўцы сабраліся дзясяткі пакецікаў ад сухой фарбы, якой прапаноўвалі кідацца. Арганізатары зладзілі флэш-моб па іх зборы.



Фестываль стаў добрай нагодай бесклапотна правесці час і пазнаёміцца з такімі ж смельчакамі, як сам.



Добра, што сухія фарбы лёгка адмываюцца.

Фотарэпартаж Зоі ХРУЦКАЙ.

● ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ, ПЕДАГОГАМ (ВЫПУСК 12)

## Кароль

**Конь – самая складаная для разумення дзіцяці фігура.**

Нарэшце мы дайшлі і да караля. Чаму караля мы вывучаем апошнім? Таму што ён адметны, не такі, як іншыя фігуры. Яго не б'юць, яму даюць мат. Паняцце мата складанае для дзіцяці. Але пра гэта пасля. Спачатку развучым, як кароль ходзіць і б'е. Трэба патлумачыць дзіцяці, што караля губляць нельга. Яго неабходна берагчы.

Галоўнае: кароль ходзіць і б'е толькі на адну клетку.



Пастаўце фігуру караля на любую клетку. Няхай дзіця раскладзе кардонныя кружочкі на месцы, куды кароль зможа пайсці.

**Кароль не можа хадзіць пад бой іншых фігур.**

Расстаўце дыяграму і раскажыце, што могуць у ёй зрабіць пры сваім ходзе белы кароль і чорны.



### Задачы

**Куды можа пайсці кароль?**



**Каго можа збіць кароль?**



### Мы яшчэ чакаем вашы малюнкі!

Мы працягваем збіраць малюнкі для кніжкі Віталя Качаткова пра тое, як навучыць шахматам дашкольнікаў. Некалькі малюнкаў мы ўжо атрымалі. Але нават калі вы ўжо даслалі адзін, дасылайце яшчэ!

Дасылайце любыя малюнкі на тэму шахмат у рэдакцыю на адрас: **222310, Вялікі Гасцінец, 143/518 з пазнакай "Конкурс малюнкаў пра шахматы"**. А можна сфатаграфаваць і даслаць здымак на regionnews @rh.by.

Маляваць можа хто заўгодна, даслаць можна адначасова некалькі малюнкаў.

**Галоўная ўмова – малюнак павінны паказваць любое шахматнае правіла.**

Усіх удзельнікаў чакаюць памятныя падарункі. Віталь Качаткоў абярэ сярод дасланых тыя, што размесціць пасля ў кніжцы.



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

# Першы дамашні матч ФК "Чысць" скончыўся разгромным лікам 0:6

МАЛАДЗЕЧНА

**У суботу, 14 красавіка, на гарадскім стадыёне ў Маладзечне распачаўся футбольны сезон. Пачаўся ён з матча камандаў першай лігі – ФК "Чысць" і "Лакаматыў" з Гомеля.**



Футбалісты з Гомеля стаялі на галаве, калі выйгралі з лікам 0:6.

Работнікі стадыёна перажывалі, што газон яшчэ не гатовы, што трава яшчэ не пасеяная і яны вельмі баяцца, што футбалісты папсуюць поле.

Магчыма, хваляванне за стан поля перадалося і гульцам ФК "Чысць"", інакш як патлумачыць, што ў гэты дзень ФК "Чысць" прайграў з разгромным лікам – 0:6.

Калі першыя 15 хвілін матча гульцы Чысці яшчэ раз-пораз знаходзіліся ля варотаў саперніка, спрабуючы ствараць моманты, то пасля першага прапушчанага гола спрыт падначаленых **Дзяніса Мятліцкага** заўважна знік.

Праз 20 хвілін пасля першага гола "Лакаматыў" здолеў рэалізаваць пенальці. А за чатыры хвіліны да свістка на перапынак гулец "Чысці" Ілля з Сафі зрэзаў мяч у свае ж вароты.

Пасля перапынку чысцінцы зусім палі духам, бо як толькі на табло пачаўся адлік сёмай хвіліны другога тайма, лік стаў 0:4.

Затым яшчэ два галы ў вароты ФК "Чысць" падвялі сумную рысу першаму хатняму матчу каманды.

На пасляматчавай прэс-канферэнцыі галоўны трэнер ФК "Лакаматыў" **Павел Крэчын** сказаў:

– Хацеў бы падзякаваць сваім хлопцам за перамогу, за тое, што выканалі план на гульню, рэалізавалі напрацаваны матэрыял.

На пытанне пра стан поля трэнер адказаў:

– Веснавое поле для ўсіх аднолькавае. Для нашай каманды – гэта першы выхад у сезоне на натуральнае поле. Хлопцы хутка прыладзіліся. Усё добра. Рыхтуемся да наступнай гульні.

**– Што скажаце пра каманду-саперніцу?**

– Не ў маіх правілах ацэньваць гульню саперніка. Для гэтага ў іх ёсць свой трэнер. Скажу адно, гульцы стараліся.

Галоўны трэнер ФК "Чысць" **Руслан Лукін** пачаў з падзякі работнікам стадыёна.

– Вялікі дзякуй усім работнікам, што паспелі падрыхтаваць газон да матча. А ўсіх аматараў футбола хочацца павіншаваць з пачаткам сезона.

**Што датычыцца гульні, то відавочна, што каманда правальіла ўсю перадгульнявую ўстаноўку. Я сам не ведаю, адкуль у хлопцаў з'явіўся такі страх у ножках, магчыма, гэта маладосць, няма досведу. Скажу так: добра тое, што гэта параза здарылася ў другім туры чэмпіянату.**

Мы зробім работу над памылкамі. І я абяцаю, што ў наступным матчы са Смаргонню, які адбудзецца на выездзе, балельшчыкі ўбачаць зусім іншую каманду. Гомель віншую з перамогай. А нам хачу пажадаць цярпення і яшчэ раз цярпення.

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**




Старшы трэнер ФК "Чысць" Дзяніс Мятліцкі паабяцаў выканаць са сваімі гульцамі работу над памылкамі.



Чысцінцы так і не здолелі трапіць у вароты саперніка.



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

3. Невялікая парнакапытная жвачная жывёліна (свойская і дзікая) сямейства пустарогіх.
4. Бруха, жывот.
5. Металічная пасудзіна акруглай формы і розных памераў для награвання вады, гатавання ежы.
6. Чарльз Букоўскі: "Мы нават не просім шчасця, толькі крыху менш ...".
11. Сіла, якая дзейнічае на адзінку плошчы перпендыкулярна да паверхні цела.
13. Адзіны прадстаўнік сямейства кашачых, які жыве ў тайзе.
14. На гербе гэтага беларускага палескага горада – два сярэбраныя жураўлі, а ў верхнім левым куце – залатыя зорка і паўмесяц.
15. Вязкая маса рознай кансістэнцыі, якая атрымліваецца пры змешванні мукі з вадкасцю.
16. На тэрыторыі гэтай паўночнай краіны першымі папяровымі банкнотамі служылі гульнявыя карты.
18. Самая маладая валюта ў свеце.
19. Рэчыва, якое выпрацоўваецца клеткамі пасля кантакту з вірусам і робіць іх больш-менш неўспрымальнымі да віруснай інфекцыі.
21. Рад аднародных прадметаў ці жывых істот, якія размяшчаюцца або рухаюцца адно за адным.
25. Перасяленец з якой-небудзь краіны.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Андора – адзіная краіна ў свеце, дзе гэта паслуга цалкам бясплатная. У Беларусі гэту паслугу здзяйсняе дзяржаўны манапаліст.
2. Мястэчка нашага рэгіёна, дзе ў дзяцінстве гадаваўся паэт Уладзімір Някляеў.
3. Сталіца Афганістана.
7. Ад назвы гэтай вясенняй кветкі паходзіць назва папулярнага турэцкага галаўнога ўбору. А таксама некалькі стагоддзяў менавіта гэта кветка была сімвалам правячай дынастыі Асманскай імперыі.
8. У СССР – кааператыўная арганізацыя сялян, якія добраахвотна аб'ядналіся для сумеснага вядзення буйной сацыялістычнай сельгаспадарчай вытворчасці на аснове грамадскіх сродкаў вытворчасці і калектыўнай працы.
9. Калі "ікс" ужо заняты.
10. Гадавіна дзейнасці або існавання чаго-небудзь, якая вылічваецца звычайна дзесяцігоддзямі, стагоддзямі і ўрачыста адзначаецца грамадскасцю.
12. З гэтага матэрыялу ў Алясцы ў 19 стагоддзі рабілі грошы.
17. Тулава, корпус чалавека, жывёлы, птушкі.
20. Вышэйшая мэта, да якой імкнуцца людзі і якая кіруе іх дзейнасцю.
22. Гэту кветку падарожнік Марка Пола называў "ружай, вялікай, як качан капусты".
23. Састаўная частка.
24. Мерна рухаць зверху ўніз або з боку ў бок; гайдаць, хістаць.
26. Від атмасферных ападкаў: ледзяныя крышталікі, якія ўтвараюцца ў выніку ахаладжэння вадзяной пары ў ясныя і ціхія ночы і асядаюць тонкім слоем на глебе, дрэвах.

## Адказы на крыжаванку з №15

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 2. Каманда. 5. Агарод. 6. Адказ. 8. Авал. 9. Калдуны. 10. Канапа. 15. Карагод. 16. Кіно. 20. Доктар. 22. Дарога. 23. Вітаўт.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Каптан. 3. Чарапаха. 4. Двор. 7. Казка. 11. Мазыр. 12. Дакор. 13. Ісландыя. 14. Анкета. 17. Аканом. 18. Драпіна. 19. Грошы. 21. Тарнада.



## ГАРАСКОП 20-26 КРАСАВІКА



**АВЕН.** Вы выносіце прысуд людзям, вырашаеце, хто з іх робіць добра, а хто не. Але ацэньваеце па сваіх вагах, якія не з'яўляюцца эталоннымі. Такія адносіны могуць выклікаць канфлікты, і вы будзеце не ў выйгрышнай пазіцыі. Прыслухоўвайцеся да інтуіцыі, яна вам шапне, дзе вы мелі рацыю, а дзе не.



**ЦЯЛЕЦ.** Калі прымаеце важныя рашэнні, якія тычацца работы, то не варта прыслухоўвацца да парадаў сяброў ці сваякоў. Вы ведаеце ўсе тонкасці, нюансы і самі павінны прыйсці да правільных высноў.



**БЛІЗНЯТЫ.** Да ўсяго ў жыцці трэба адносіцца спакойна, нават калі ўзнікаюць цяжкасці. Сітуацыя заўсёды мяняецца да лепшага, трэба толькі дачакацца гэтага моманту.



**РАК.** Не спяшайцеся, будзьце спакойныя – ваша ад вас не сыдзе, калі вы зробіце акцэнт не на прафесійную сферу, а прысвеціце больш часу вывучэнню новага, роздумам і сям'і. Бо менавіта моцныя "дамашнія тылы" падтрымаюць вас у любых пачынаннях і дадуць стымул да перамог.



**ЛЕЎ.** Вы будзеце абаяльнымі ўдвайне: па-першае, у сваіх уласных вачах, па-другое, у вачах навакольных, якім перадасца ваша надзвычайная ўпэўненасць у сабе. Харызма будзе дапамагаць і на рабоце, і дома, і ў зносінах з людзьмі.



**ДЗЕВА.** Перад вамі расступіцца заслона тайны. Загадкі і пытанні, якія даўно вас турбуюць, знойдуць свае адказы і рашэнні. Толькі ўважліва прыглядайцеся да падзей, што адбываюцца, і своечасова на іх рэагуйце.



**ШАЛІ.** Займіцеся знешнім выглядам, творчасцю, домам, абнаўленнем абстаноўкі. Да таго ж вы адчуеце прыліў сіл і энергіі, таму плённа папрацуеце і паспееце нашмат больш, чым звычайна.



**СКАРПІЁН.** Успомніце пра мінулыя грандыёзныя планы і паспрабуйце зноў увасобіць іх у жыццё. У любую справу дадавайце разлік і не дазваляйце нікому ўмешвацца ў ваша ўласнае жыццё.



**СТРАЛЕЦ.** Вы чамусьці цяпер незадаволеныя дасягнутым, ва ўсім сумняваецеся. Спыніцеся, агледзьцеся, адумайцеся. У вас шмат сіл, добрае здароўе. Сканцэнтруйцеся на чым адным, і вынік не прымусіць сябе чакаць.



**КАЗЯРОГ.** Добра было б змяніць абстаноўку, а заадно і абмежаваць зносіны з тымі, хто выклікае ў вас антыпатыю – гэта дапаможа захаваць душэўную раўнавагу.



**ВАДАЛЕЙ.** Дні спрыяльная для вырашэння існуючых праблем, гарманізацыі адносін, пабудовы планаў на будучыню – увогуле, усіх тых дзеянняў, якія дазволяць вывесці вашы адносіны на новы, больш устойлівы і прыемны ўзровень. Таму прысвячайце час менавіта свайму асабістаму жыццю, пакуль лёс спрыяе вам у гэтым.



**РЫБЫ.** Вы схільныя занадта меркантыльна ставіцца да блізкіх вам людзей, сяброў. Вядома, можна папрасіць у іх дапамогі, але не злоўжываць. І тым больш спрабаваць нажыцца за іх кошт. Калі перад вамі стаяць такія мэты, то вы зможаце іх дамагчыся цяпер. Але падумайце, ці прынясе вам гэта радасць?

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | | 7 | | | | | | 3 |
| | 5 | 2 | | | 3 | | 8 | |
| 6 | | | 9 | 1 | | | | |
| | | | 4 | | 1 | 8 | | 5 |
| 2 | | | | | 9 | 7 | 6 | |
| | | | | 7 | | | 4 | 2 |
| | 7 | | 1 | | 4 | | | |
| 3 | | | | 5 | 6 | | | |
| 5 | | 6 | | | | | | 8 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | 9 | 7 | 5 | 6 | 8 | 1 | 2 | 3 |
| 1 | 5 | 2 | 7 | 4 | 3 | 6 | 8 | 9 |
| 6 | 8 | 3 | 9 | 1 | 2 | 5 | 7 | 4 |
| 7 | 6 | 9 | 4 | 2 | 1 | 8 | 3 | 5 |
| 2 | 4 | 5 | 3 | 8 | 9 | 7 | 6 | 1 |
| 8 | 3 | 1 | 6 | 7 | 5 | 4 | 9 | 2 |
| 9 | 7 | 8 | 1 | 3 | 4 | 2 | 5 | 6 |
| 3 | 2 | 4 | 8 | 5 | 6 | 9 | 1 | 7 |
| 5 | 1 | 6 | 2 | 9 | 7 | 3 | 4 | 8 |

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## ● НАДВОР'Е

### 21 красавіка, субота

| | Пятніца | | | Субота | | | Нядзеля | | | Панядзелак | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +7 / +16 | | | +11 / +16 | | | +7 / +12 | | | +4 / +12 | | |
| | 735 | ↘ | 5 | 735 | ↘ | 11 | 736 | ↘ | 9 | 742 | → | 2 |
| Вільня | +6 / +17 | | | +13 / +14 | | | +6 / +12 | | | +3 / +12 | | |
| | 753 | → | 6 | 743 | ↘ | 6 | 744 | ↘ | 8 | 747 | ↗ | 2 |

| Тэмпература паветра / Цiск (мм рт. сл.) | Воблачнасць ападкі / Хуткасць ветру м/с | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|

Усход 5.56
Захад 20.26
Даўжыня дня 14.30

Усход 9.54
Захад 1.41
Квадра 1

| Горад | Ноч | Дзень | Ціск | Вецер | м/с |
|---|---|---|---|---|---|
| Віцебск | +12 | +15 | 738 | ↘ | 11 |
| Гродна | +12 | +16 | 748 | ↘ | 8 |
| Мінск | +11 | +16 | 735 | ↘ | 11 |
| Магілёў | 10 | +18 | 738 | ↘ | 12 |
| Брэст | +11 | +20 | 747 | ↘ | 9 |
| Гомель | +9 | +14 | 741 | ↘ | 10 |

## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -6,7 °C у 1979 годзе
Максімальная тэмпература +22,4 °C у 2014 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 17,5 мм у 1983 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

● **Металічнаму століку, які ўпрыгожвае падворышча Шэрых у Ілы, амаль сотня гадоў. Яго першы гаспадар, святар Канстанцін Урлік, пакінуў гэты столік сваім сынам, а яны пасля перадалі сваякам у Ілью. Гісторыю століка чытайце ў праекце "Простыя рэчы".**



## Забаронена лавіць судака

Забарона дзейнічае ад 15 красавіка да 30 мая.

Гэта робіцца, каб захаваць папуляцыю і стварыць спрыяльныя ўмовы для размнажэння судака.

У выпадку ненаўмыснага вылаву судака рыбу неабходна адпусціць.

За незаконную лоўлю судака ў названы перыяд прадугледжаная адказнасць з накладаннем штрафу ад 20 да 50 базавых велічынь, маргчымая таксама канфіскацыя прылады лоўлі.

Калі агульная сума шкоды складзе больш за 100 базавых велічынь, можа быць распачатая крымінальная справа.

**Васіль ПАЎЛАЎ, старшы дзяржінспектар маладзечанскай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

**Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№16)**

1. Імя, прозвішча____________________
2. Дата нараджэння ____________________
3. Клас
Школа____________________
4. Населены пункт____________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ____________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі ____________________
9. Імя, імя па бацьку ____________________
10. Прозвішча настаўніка ____________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам____________
12. Подпіс настаўніка____________________

## Атрымай планшэт за дзявяткі і дзясяткі

Для тых, хто добра вучыцца і жадае да летніх канікулаў займець патрэбную рэч, нагадваем правілы.

У акцыі могуць удзельнічаць 12-гадовыя школьнікі школы ці гімназіі рэгіёна.

Вы можаце дасылаць адзнакі, заробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Бланкі, на якіх больш за адну адзнаку, не прымаюцца. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Клас, вучні якога былі самыя актыўныя, пойдуць усе разам у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне 53-78-04 ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за 2017-2018 навучальны год.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by:
rh.by/by/457/50/18289/.

Бланкі дасылайце на адрас: 222307, г. Маладзечна, вуліца Вялікі Гасцінец д. 143, ГЦ "Тройка", офіс 518, Рэгіянальная газета".

**Аддзел інфармацыі.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Чаму ў нашых гарадах стаяць помнікі Леніну?



**Анджэй Кахоўскі, менеджар па продажах:**
– Я днямі прыехаў з Варшавы ў госці ў Маладзечна. Вельмі павярхоўна ўяўляю, хто такі Ленін. У Польшчы помнікаў яму не сустракаў.



**Анастасія Паслед, навучэнка:**
– Мы вывучалі Леніна на ўроках гісторыі. А гісторыю нельга забываць. Для таго, відаць, і помнік.



**Уладзімір Куракін, пенсіянер:**
– Стаіць, бо паставілі, калі гэта было запатрабавана. А цяпер вялікай актуальнасці ў помніку няма.



**Юлія Ярашонак, вучаніца:**
– Напэўна, Леніна некаторыя людзі паважаюць за тое, што ён зрабіў рэвалюцыю. Але ж рэвалюцыя – гэта шмат крыві.



**Аляксандр Капуцкі, юрыст:**
– Лічу, што Ленін і кампанія былі тэрарыстамі, і гэтымі помнікамі мы праслаўляем тэрарызм. Па Канстытуцыі, ідэалогія палітычных партый не можа ўстанаўлівацца як абавязковая. Помнік Леніну ў населеных пунктах супярэчыць Канстытуцыі.



**Ангеліна Ярашэвіч, студэнтка:**
– Пра яго нам расказвалі ў школе. Здаецца, на гісторыі Беларусі.



**Алена Валасковіч, у дэкрэтным адпачынку:**
– Стаіць, бо гэта наша гісторыя. Няма помнікаў – няма гісторыі. Нельга жыць толькі сапраўдным. Варта памятаць пра мінулае.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№16 (1199) 20.04.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА "РоллПрынт", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 48. Падпісана ў друк у 9.00 19.04.2018.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.